Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 611, Студзень 2015 г.
Год выданьня 66

## Шаноўныя чытачы!

Вітаем вас у гэтым першым выпуску нашай газэты ў надыйшоўшым 2015 годзе. Неяк ня верыцца, што ўжо 15 год крочыць па Зямлі 21 стагодзьдзе, а дакладней, трэцяе тысячагодзьдзе. Шмат каму ўзгадаецца той час, калі сустракалі 2000 год. Нам, можна сказаць, пашанцавала, толькі некаторым пакаленьням даводзіцца жыць на мяжы тысячагодзьдзяў. Так што час наш асаблівы, адметны, адказны. А цяпер ужо бачна, што і вельмі трывожны. Пакуль мы з вамі жывем звычайным жыцьцём, але над сьветам ізноў навісла цень вялікіх катаклізмаў і ўзбурэньняў. Сытуацыя ў Эўропе, зьвязаная з расейскай агрэсіяй супроць Украіны, імкліва мяняецца да горшага. Ужо і на нашай Бацькаўшчыне павеяла вайною, тэрміновa прызываюцца ў войска рэзэрвісты, праводзяцца вайсковыя вучэньні.

Гэты студзеньскі нумар газэты якраз адлюстроўвае тое нашае звычайнае жыцьцё, якім жыве беларуская грамада ў Амэрыцы: калядныя і навагоднія сьвяты, ялінкі, іншыя падзеі, а таксама не пакінулі мы без увагі ўкраінскую тэму і тэрарыстычны акт у Парыжы.

Жадаем вам прыемнага чытаньня. Нагадваем, што кожны з вас можа быць аўтарам публікацый у газэце, запрашаем да большай актыўнасьці ў падтыманьні на добрым узроўні зьместу нашага выданьня. Таксама мусім памятаць, што выходзіць яно ў сьвет толькі дзякуючы вашай фінансавай падтрымцы, напэўна, бальшыня з вас мае магчымасьць даслаць тыя паўсотні даляраў раз у год, але не заўсёды кожны робіць гэта дзеля падтрымкі адзінай беларускай газэты ў Амэрыцы.

*Рэдакцыя*



# Каляднае архіпастырскае пасланьне архіяпіскапа Наваградзкага, першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьвятаслава Логіна




*Батлейка ў храме БАПЦ у Таронта (Канада)*

## Ці мае «рускі мір» нешта супольнае з Хрыстовым вучэньнем?



***«Хрыстос родзіцца, слаўце, Хрыстос зь нябёсаў, сустракайце.» (Ірмас 1-е песьні Каляднага Канону)***

Любыя браты і сёстры ў Хрысьце!

Надыйшло адно з найвялікшых хрысьціянскіх сьвятаў — Нараджэньне Госпада Нашага Ісуса Хрыста, званае ў нашым народзе — Каляды. Сьвяткаваньне гэтай гістарычнай падзеі штогод нагадвае нам пра Тайну прыйсьця на зямлю Сына Божага, які нясе мір і добрую волю ў дамы і сэрцы людзей. Таму Хрысьціянская вера яднала людзей і розныя народы паміж сабою.

Але не заўсёды людзі стваралі зямныя законы ў згодзе з законамі Боскімі. Часта імпэрыі намагаліся зьнішчыць іншыя краіны, у тым ліку і Беларусь. І цяпер суседні брацкі ўкраінскі народ вядзе змаганьне за сваю волю й незалежнасьць з усходнім агрэсарам, які выдаваў сябе за брата, а сёньня пагражае хрысьціянскім эўрапейскім народам.

Эвангельле дае чалавеку разуменьне таго, што ёсьць ад Бога, а што — ад нячыстага, і гэтым вучыць нас, як нам думаць і паступаць у розных выпадках нашага зямнога жыцьця.

Ці можа дзяржаўны імпэрыялізм і такі ж царкоўны «рускі мір», мець нешта супольнае з Хрыстовым вучэньнем?

Другая асоба Прасьвятое Тройцы — Сын Божы, прыйшоўшы на Зямлю болей за дзьве тысячы гадоў таму, абвясьціў, што ўсе людзі, як і ўсе народы — роўныя перад Богам і ёсьць братамі. Таму Беларуская Царква заўсёды моліцца за тое, каб наш народ быў вольным сярод вольных і каб незалежная Беларусь была на роўных зь іншымі дзяржавамі.

Зычу Беларускаму народу, што жыве на Бацькаўшчыне і ў замежжы, прасьвяднага мірнага неба і шчасьця ў Новым 2015 годзе ад Н.Х.!

Хрыстос нарадзіўся! Слаўце Яго!

Зь любасьцю й малітвамі,

*+ Сьвятаслаў Логін,*
*Архіяпіскап Наваградзкі, Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.*

# «Каб мы любілі адзін аднаго»

## Навагодняе віншаваньне старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы



Дарагія суродзічы!

Вітаю Вас з надыходзячым Новым, 2015, годам!

Жадаю, каб быў ён лепшы за папярэдні. Каб зьдзейсьніліся ўсе тыя мары, якія 2014 год ня здолеў зьдзейсьніць. І каб Бог Усемагутны абараніў наш народ ад усіх нягодаў, якія пагражаюць яго волі.

Жадаю кожнаму з нас, каб мы адчулі тую любоў да свае зямлі, якую адчувае рэшта чалавецтва да сваіх бацькаўшчынаў, каб мы ўбачылі, які наш край прыгожы, мілы, шчодры.

Жадаю, каб мы адчулі любоў да свае мовы, да ўсяго беларускага. Каб мы любілі адзін аднаго, каб паважалі права кожнага з нас мець свае погляды, але каб стараліся разам шукаць тое, што нас яднае, што робіць нас нацыяй. Нас доўга дзялілі, каб зьнішчыць, каб зрабіць з нас рабоў, якія захапляюцца ўладай і ня любяць адзін другога, бо бачаць у тым другім сваё ўласнае няшчасьце, сваю ўласную нядолю.

Дарагія суродзічы, вельмі цешыць адраджэньне нашых традыцый і павага да свае мовы ў штораз большым коле нашай моладзі. Хацелася б, каб тыя, хто яшчэ захоўвае пачуцьцё няпаўнавартасьці, характэрнае для паняволеных народаў, адчулі ўдзячнасьць Уладару Сусьветаў, што даў нам такі цудоўны край.

І нарэшце, кожнаму з вас жадаю ў Новым 2015 годзе добрага здароўя, сямейнага шчасьця і плёну ў працы.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла,*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*

# Беларуская ялінка ў Таронта



Мароз лютаваў на двары, а ў беларускім цэнтры Таронта панаваў сьвяточны настрой. З самага ранку тут зьвінелі дзіцячыя галасы, чуўся сьмех дарослых. На сьвяточную Ялінку, якая адбылася 11 студзеня, завіталі маленькія беларусы разам са сваімі бацькамі.

Цэлы год дзеткі чакалі гэтага сьвята. Яны рабілі касьцюмы, вучылі вершы, песьні. І вось гэты дзень прыйшоў!

Загарэліся рознакаляровыя агеньчыкі на ялінцы, зазіхацелі яркія гірлянды, зайграла музыка — радасная мітусьня напоўніла залю.

З вітальнаю песьняй да гасьцей выйшлі ў сьвяточных строях калядоўшчыкі. Гэта фолькгрупа «Яваровы людзі» далучыла і малых, і дарослых да старажытнага абраду калядаваньня, падрыхтаваўшы адмысловую праграму з народнымі песьнямі і забаўкамі. Акрамя сьпявачак весялілі прысутных і гулялі зь дзеткамі Мядзьведзь, Бусел, Доктар, Конь і Зайчык.

Вядома ж, дзеці зь нецярпеньнем чакалі Дзеда Мароза і Сьнягурку, усе разам клікалі іх у залю да прыгажуні ялінкі. Малыя навыперадкі чыталі Дзеду Марозу вершы, сьпявалі, танчылі. І ўсе дзеткі атрымалі ад яго цудоўныя падарункі! Карагоды вакол ялінкі, гульні, загадкі, танцы захапілі і дзетак, і дарослых.

Да вечара ў беларускім цэнтры віравала сьвята. Адыходзячы дадому, бацькі і дзеткі шчыра дзякавалі арганізатарам сьвята Ірыне Тоўсьцік і Алене Лявончанцы за Ялінку. І не было лепшай падзякі пад час разьвітаньня, як бачыць шчасьлівыя твары маленькіх беларусаў!








*Надзея Лявончанка.*
*Фота Надзеі Лявончанкі і Натальлі Арбузавай*

# Беларускія калядныя традыцыі ў амэрыканскім горадзе



У штаце Нью-Джэрсі, што суседнічае з Нью-Ёркам, у горадзе Саўт-Рывер, больш за сорак гадоў стаіць на ўзгорку акраіны горада прыгожая царква св. Еўфрасіньні Полацкай.

Тут прыхаджане не толькі моляцца, але і перахоўваюць свае рэлігійныя традыцыі ў спалучэньні з традыцыямі амэрыканскімі. Гэта калі казаць пра сьвяткаваньне Калядаў.Такое сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 11 студзеня.

Пасьля малітваў у царкве у прыцаркоўным будынку Беларуска-амэрыканскага грамадзкага цэнтра адбылася забаўная навагодняя-калядная ялінка.

Удзельнікаў сьвяткавальнай праграмы і гасьцей прывітаў і бласлявіў настаяцель прыхода а. Міхаіл. Сястрынства падрыхтавала смачны абед, а затым прагучэлі беларускія й амэрыканскія калядкі. Адбыліся гульні і танцы, у тым ліку карагодны «Яшчур».

Прыбыў у залю пад канец сцэнічнай праграмы Дзед Мароз зь мяхом падарункаў. Яго гучна сустрэлі і дзеці, і маладыя, і старыя, бо падобныя сьвяткаваньні прыпадаюць усім да сэрца.

Сьвяткавальную праграму падрыхтавалі дасьведчаныя ў гэтай галіне спадарыні Таццяна Дзямешчык і Віла Леўчук пры дапамозе ўдзячных прыхаджанаў.

*Фота Янкі Запрудніка*

# Зімовыя сьвяты ў Нью-Ёрку





Сёлета, як і кожны год, беларусы Нью-Ёрку працягнулі шматгадовую традыцыю сумеснага сьвяткаваньня Калядаў і Новага году. Ужо стаўся рэальнасьцю той факт, што многія амэрыканскія беларусы, незалежна ад веравызнаньня, пачынаюць адзначаць зімовыя сьвяты зь вечара 24 сьнежня, сьвяткуючы Каляды з цэлай Амэрыкай па грыгарыянскім календары. Але найбольш гэта робіцца дома, у сем'ях ці з блізкімі сябрамі. Сумесныя сьвяткаваньні ў беларускай грамадзе пачынаюцца з сустрэчы Новага году.

31 сьнежня ўвечары беларуская грамада - тыя, хто не захацелі сядзець дома, а вырашылі сустрэць Новы 2015 год сярод сваіх суродзічаў, сабраліся ў грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню 401 у Брукліне. Асаблівую прывабнасьць вечарыне надала жывая беларуская музыка, сьпевы, якія выконвалі Тацьцяна і Валянцін Дзямешчыкі, добра вядомыя амэрыканскім беларусам музыканты з Саўт-Рывэру. Перад тым як праводзіць адыходзячы год і сустракаць новы, былі адчынены дзьверы нашай праваслаўнай царквы і кожны меў магчымасьць прыйсьці туды, падзякаваць Богу за пражытае добрае і благое, памаліцца за ажыцьцяўленьне сваіх спадзяваньняў на будучыню. Сьвятар а. Іван таксама правёў кароткі малебен.

Прыемнай неспадзяванкаю сталася зьяўленьне ў залі сьв. Мікалая з падарункам - вялікім, па-мастацку аздобленым тортам і ў дадатак цэлай выкладкай смачных "капкейкаў" і рознакаляровага печыва ў выглядзе ялінак і фігурак. Выпекла ўсе гэтыя цудоўныя прысмакі сяброўка Бруклінскага аддзелу БАЗА Жанна Карнілава, а данёс іх Мікола Шчэрба, непазнавальна ўвасобіўшыся ў вобраз сьв. Мікалая.

Пасьля апоўначы, калі ўжо сустрэлі Новы год, прысутных чакала яшчэ адна прыемная забава. Тацьцяна Красоўская падрыхтавала лятарэю, і розыгрыш яе ператварыўся ў вясёлую дзею, а шмат для каго і ў прыемную, хто меў шчасьлівыя квіткі і выйграў прызы. Выйгрышныя квіткі выцягвалі па чарзе маленькія дзеці, якія таксама не захацелі спаць ў гэтую ноч і вельмі ўпрыгожылі сьвята сваімі гульнямі і танцамі. Асабліва ўразіў сваім рытмічным танцам маленькі Алекс, унук Алы Караткевіч.

Сьпевы, скокі, сяброўскія гутаркі ў Навагоднюю ноч працягваліся да самай раніцы.

Далей нас чакалі праваслаўныя Каляды. Увечары 6 студзеня ізноў прыветна сьвяціліся вокны нашай царквы. Багаслужба, а потым сумесны стол на Куцьцю чакалі усіх, хто сьпяшаўся на сустрэчу Сьвятых Калядаў - Хрыстовага Нараджэньня. Галоўная Калядная Багаслужба адбылася ўвечары 7 студзеня. На жаль, з прычыны працоўнага дня адбывалася яна не раніцаю, а ў вечаровы час, каб людзі маглі прыйсьці.

Праз некалькі дзён, у нядзелю, 11 студзеня, Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ладзіла Калядную ялінку. Раніцаю ў царкве адбылася Багаслужба з удзелам Мітрапаліта Сьвятаслава, які адмыслова прыехаў на сьвята з Таронта. А потым у грамадзка-царкоўнай залі сабраліся дарослыя і дзеці. Звонкія дзіцячыя галасы гучалі паўсюдна, а дарослыя цешыліся на іх і самі адчувалі сябе маладзейшымі. Пакуль усе частаваліся смачнымі стравамі, у залю завіталі сапраўдныя калядоўшчыкі з Каляднай зоркаю і Казою, адбылася вясёлая традыцыйная дзея са сьпевамі Калядак ды каляднымі ласункамі ад гаспадароў. А дзеці тым часам чакалі прыходу Сьвятога Мікалая, і ён неўзабаве завітаў з цэлым мехам падарункаў, але дастаць іх можна было толькі за пэўную заслугу - прачытаць вершык, прасьпяваць песеньку, або станчыць. Малыя ажно ў чаргу выстраіліся, каб хутчэй паказаць свае таленты. Потым задаволеныя, вадзілі карагоды вакол ялінкі. Варта адзначыць, што сёлетнія зімовыя сьвяты ў Нью-Ёрку былі досыць шматлюднымі, добра падрыхтаванымі. І сталася так не само па сабе, а дзякуючы высілкам нашых актывістаў. Дзякуем найпер дастойнаму сьвятарству нашай БАПЦ за духоўную частку сьвяткаваньняў - Уладыку Сьвятаславу, айцу Івану, айцу Мікалаю, нашаму маладому асістэнту пры царкоўных службах - Аляксандру. Дзякуем Алене Рыдзеўскай, Але Орса-Рамана, Сяргею Капытку за падрыхтаваную Калядную дзею, усім "калядоўшчыкам". Падзякі заслугоўваюць Віталь Зязюля, Алена Пракоп, Мікола Шчэрба за сьвяточнае афармленьне залі.

Не было б добрага сьвята без сьвяточнага стала са стравамі і напоямі на ўсе густы. Менавіта стол патрабаваў найбольшай затраты часу і сілаў, усе трэба было закупіць прывезьці-прынесьці, згатаваць, сэрвіраваць, падаць ды прыбраць. І тут працавала цэлая каманда - Ала Караткевіч, Тацьцяна Красоўская, Уладзімір Караткевіч, Сяргей Сарагавец, Галіна Царук, Сьвятлана Фёдарава, Алена Дубавая, Алена Пракоп.

Заключным акордам зімовых сьвятаў сталася цудатворная дзея Вадохрышча. У гэтым годзе яно прыпадала на панядзелак - працоўны дзень. Улічваючы пажаданьні вернікаў, сьвяточная служба адбылася ў нядзелю вечарам. Асьвячэньне вады, ператварэньне яе Боскай сілаю ў жыватворную адбывалася ва ўрачыстай атмасфэры. А пасьля кожны прысутны мог узяць з сабою сьвятой вады, каб асьвяціць свой дом, папіць дзеля аздараўленьня, ці акрапіць новае аўта, каб езьдзіла без прыгодаў, альбо трымаць на выпадак якойсьці патрэбы цягам цэлага году.

Разыходзіліся вернікі з адчуваньнем узьнёсласьці, душэўнай лёгкасьці і спакою, а таксама і з пачуцьцём смутку, што сьвяты завяршыліся, і наступных Калядаў давядзецца чакаць яшчэ доўгі час.

*Ганна Сурмач*

# Дапаможам Украіне!

21 студзеня адбылося чарговае пасяджэньне Амэрыканска-Эўрапейскага камітэту салідарнасьці, удзел у якім бралі прадстаўнікі БАЗА у камітэце - Тацьцяна Красоўская, Сяргей Сарагавец і Ганна Сурмач. Пасяджэньне было цікавае тым, што адбылася сустрэча з госьцем з Украіны Іванам Радзічэнкам. Ён бярэ самы актыўны ўдзел у змаганьні з расейскім наступам. Іван належыць да добраахвотніцкага батальёну "Кіеўская Русь", які змагаецца на ўсходзе Украіны.

Іван ужо другі раз у ЗША, тут ён шукае дапамогі для сваіх паплечнікаў і здабывае яе. Наш Камітэт салідарнасьці аказвае яму патрэбную дапамогу. Іван поўнасьцю забясьпечвае баявую экіпіроўку свайго батальёну. Госьць распавёў пра тыя рэальныя падзеі, якія адбываюцца ва Украіне, пра тое, што там ідзе сапраўдная вайна, і тыя, хто бярэ ўдзел у баявых дзеяньнях, патрабуюць, каб у краіне было абвешчана ваеннае становішча. Ягоныя перакананьне: "Український народ готовий захищати свою землю від Російських загарбників! У нас може немає сучасної зброї, але є віра і дух! Нас не перемогти!"

Іван мае сям'ю, ягоны 3-гадовы сын быў вельмі засмучаны, калі пабачыў, што бацька зьбіраецца ў войска.

Мы выказалі сваю падтрымку сп. Радзічэнку і перадалі яму для батальёну грошы, сабраныя сябрамі Бруклінскага аддзелу БАЗА. Гэта была наша другая сустрэча з Іванам, бо пад час ягонага першага прыезду мы пазнаёміліся і пасябравалі. Разьвітвацца з гэтым шчырым і сьмелым украінскім патрыётам было вельмі сумна, усе жадалі яму застацца жывым і здаровым, а найперш, перамагчы ў жорсткім змаганьні за незалежнасьць Украіны.

Добра было б, каб і далей беларусы ў Амэрыцы працягвалі падтрымліваць украінцаў, зьбіраць грошы, рэчы, каб перадаваць для тых, хто непасрэдна ваюе ў зоне баявых дзеяньняў. Яны змагаюцца не толькі за Украіну, але і за нашу Бацькаўшчыну і цэлую Эўропу супроць агрэсіўнай расейскай імпэрскай клікі.

*Ганна Сурмач*



*Украінскае немаўля праводзіць бацьку на фронт. Актывіст Майдану Андрэй Куліш зьбіраецца на фронт. Ягоны маленькі сынок дапамагае яму і падае бацьку ягоны вайсковы бот*

# Тэракт у Францыі адгукнуўся ў Беларусі




7 студзеня тэрарысты ўварваліся ў будынак сатырычнага часопісу Charlie Hebdo у 11-й акрузе Парыжа і адкрылі агонь з аўтаматаў па людзях і ахоўніках. Загінула 12 чалавек, у тым ліку і зяць беларускіх палешукоў — падарожнік, фатограф і журналіст Мішэль Рэно.

Марыі і Васілю Раманавым зь невялікай вёскі Данілевічы, што ў Лельчыцкім раёне, страшная вестка адгукнулася вострым болем.

Марыя Раманава: «Ужо мы праплакалі тут. Перадалі толькі. Мы тут Мішэлеву фотакартку глядзелі — не знаходзім сабе месца. Ён такі харошы быў. Унучачка, дачка яго, плача, ёй адзінаццаты год: «Майго тату забралі. Я буду дзядулю называць татам».

Раманавы выгадавалі чацьвёра дзяцей — два сыны й дзьве дачкі, усе атрымалі вышэйшую адукацыю. Меншая дачка Галіна скончыла інстытут замежных моваў у Менску. Пасьля вучобы яна працавала настаўніцай французскай мовы ў 46-й гомельскай школе на вуліцы Клермон-Фэран.

Гомель яшчэ з савецкіх часоў меў пабрацімскія сувязі з французскім горадам Клермон-Фэран. І калі ў мясцовы гарвыканкам запрашалі гасьцей з гэтага французскага гораду, то перакладчыкаў бралі менавіта з 46-й школы. Падчас адной з такіх сустрэчаў Галіна Раманава і пазнаёмілася з падарожнікам і журналістам з Клермон-Фэрану Мішэлем Рэно.

Гомельская журналістка Марыя Шыманоўская, якая напрыканцы 80-х гадоў у складзе дэлегацыі Гомеля наведвала Францыю, у тым ліку й пабрацімскі горад, прыгадвае: «Калі я была ў Францыі у сьнежні 1988 году, то сустракалася з гэтым Мішэлем Рэно. Ён да гэтага наведаў ужо Гомель і меў тут сяброў блізкіх. І захацеў адной зь сяброўак перадаць парфум. Гэты парфум я прывезла ў Гомель і перадала ягонай дзяўчыне — Раманавай. Мішэль быў высокі й прыемны француз, такі эўрапейскі чалавек. Мы бачыліся некалькі хвілінаў у будынку мэрыі, але зараз, пасьля трагэдыі, я гэта яскрава ўяўляю. У мэрыі была такая вольная атмасфэра, усе ўвазходзілі. Мы прыйшлі туды на сустрэчу з мэрам, а Мішэль ужо чакаў нас, каб перадаць парфум сваёй знаёмай у Гомель».

Неўзабаве Мішэль і Галіна Раманава пабраліся шлюбам, і яна пераехала ў Клермон-Фэран.



У іх нарадзілася лачка, якую у гонар лельчыцкага дзеда назвалі Васілісай.

Унучка і дачка Галіна патэлефанвалі ў Данілевічы з Францыі, каб паведаміць пра няшчасьце. Васіль Раманаў: «Яны ў Клермон-Фэране жывуць. Ён там у мэрыі рабіў і часопіс свой выпускаў. А ў Парыж іх паклікалі — нейкая там нарада была па часопісах, па гэтай крытыцы прарока Мухамада. Паклікалі ў Парыж, а там якраз і ўварваліся гэтыя ісламісты — і вось табе бяда».

У нядзелю 11 студзеня ў Парыжы на Маршы еднасьці супраць тэрарызму выйшаў мільён чалавек. У першым шэрагу разам з сусьветнымі лідэрамі ішлі родныя і блізкія ахвяраў. Сярод іх — беларуска Галіна Рэно, якая ў тэракце страціла свайго мужа.

У інтэрвію Радыё Свабода ўдава французскага фатографа і падарожніка кажа, што марш у Парыжы быў таксама ў памяць яе мужа, а таму яна ня мела права на ім ня быць. Галіна Рэно распавяла, якім быў яе муж, што ён любіў Беларусь: "Я страціла чалавека, сваё каханьне... Гэта быў цудоўны, залаты чалавек, які любіў сьвет, любіў усіх людзей у сьвеце, вось чаму ён столькі вандраваў. Таму што ён хацеў бачыць людзей. Нягледзячы на тое, што людзі размаўляюць на розных мовах, знаходзіў магчымасьць, каб даведацца, пра што яны думаюць, чым яны жывуць і як хочуць бачыць будучыню — будучыню іх краіны і сьвету. А ў нас забралі гэтага чалавека, які быў настолькі цікавы, настолькі цудоўны тата, для якога дачка была ўсім. У мяне забралі каханьне ўсяго майго жыцьця".

У Гомелі мясцовыя жыхары прыгадваюць, што Мішэль Рэно ў 2009 годзе ладзіў выставу ў галерэі Гаўрылы Вашчанкі. І называлася яна «Падарожжа вакол сьвету ў 80 фатаграфіях».

Другая выстава Мішэля Рэно адкрылася ў Гомелі 11 студзеня цяпер ужо ў ягоную памяць. Перад адкрыцьцём гэтай пасьмяротнай выставы Людміла Шымбалёва, дырэктар галерэі, распавяла: «Вельмі сьветлы быў чалавек. Ён езьдзіў па сьвеце і знаходзіў нават у самых складаных карцінах вайны, голаду, галечы — іскрынку любові і прыгажосьці. Гэта страшна, калі забіваюць такіх добрых людзей. Ён падарыў гомельскай галерэі 10 сваіх прац: „Дарога з Маракеша. 1985 год", „На высьпе Ява. Інданэзія. 1994", „Ровар і аўтобус. Віетнам" і іншыя. Яны скажуць пра яго больш, чым словы».

*Паводле Радыё Свабода*

# Беларусы ствараюць «Народную Біблію»

Беларусы ствараюць «Народную Біблію» – гэта значыць Біблію, перапісаную ад рукі шматлікімі асобамі.

Галоўная мэта акцыі – стварэньне нацыянальнага сымбалю, які паўплывае ня толькі на хрысьціянскую, але і на грамадзянскую сьвядомасьць.

Першы этап – перапісваньня Псалтыра – ажыцьцяўляецца і мае завершыцца ў гэтым годзе. Паўдзельнічаць у ім пасьпелі яшчэ пры жыцьці Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін – расказвае ініцыятар ідэі, журналіст і філёсаф Уладзімір Падгол.

– Ідэя стварэньня Біблії вынікала з агульнанацыянальнай дыктоўкі, якую я прапанаваў і арганізаваў першы раз у 2008 годзе. Мы пісалі розныя тэксты: і «Дудку беларускую» Мацея Бурачка пісалі, і нават дайшлі да інтэрнэт-дыктоўкі «Ліста з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. А потым я падумаў: вось так, як Скарына зрабіў некалі культурную рэвалюцыю, надрукаваўшы Біблію, мы б маглі аб'яднацца ў дыктоўцы па Біблії. Але як гэта зрабіць? Тут я нічога не выдумляў, мне ідэю падказаў колішні амбасадар Славаччыны Любамір Рэгак. Ён распавёў, што некалі чэхі ў Бруселі сьвяткавалі свой нацыянальны Дзень незалежнасьці. Яны запрасілі гасьцей, паклалі на стале дзве кнігі: адну з абсалютна чыстымі лістамі, а другую – прывезьлі з Прагі старажытную Біблію. Пасьля прапаноўвалі кожнаму госьцю перапісаць хоць радок, хоць два радкі, хоць вершык у чыстую кнігу. Я падумаў, што дык нам проста Богам дадзена, каб яшчэ больш зьяднацца, паспрабаваць перапісаць Біблію. Многія маю ідэю падтрымалі. Вырашылі пачаць з Псалтыра, больш за год яго перапісвалі, і так пайшла справа.

– Гэта значыць, што Псалтыр ужо перапісаны?

– Так, амаль што. Але ўявіце сабе, што беларусы, незалежна ад таго, дзе яны цяпер знаходзяцца, кожны зь іх перапіша фрагмент Біблії. Атрымаецца адзіная кніга, якую пазьней можа памножыць і выдаць нейкім накладам. Кожны зможа мець Біблію з фрагментам, перапісаным ягонай рукой, можна гэта будзе паказваць дзецям, унукам. Вядома, што ў старажытнасьці кнігі перапісвалі ад рукі. Дый увогуле, калі ад рукі перапісваецца тэкст, то зусім іначай ён успрымаецца.

Уладзімір Падгол расказаў, што створаны аргкамітэт акцыі «Народная Біблія», кіраўніком якога зьяўляецца Алесь Ліпай. Таксама ў аргкамітэт увайшлі Георгі Дзьмітрук, Павел Севярынец і Зміцер Дашкевіч.

– Вядома, што ёсьць розныя пераклады Біблії на беларускую мову. Якім вы прапануеце карыстацца?

– Для некаторых вернікаў гэта сапраўды праблема. Я думаю, што ў гэтым пытаньні патрэбная талерантнасьць, і кожны сам можа абраць сабе версію перакладу. Поўная дэмакратыя. Там жа сутнасьць застаецца тая самая. Мы плануем прэзэнтаваць «Народную Біблію» ў 2017 годзе, калі будзе адзначацца 500-годзьдзе выданьня Францішкам Скарынам «Псалтыра». Гэта Біблія павінна нас больш злучыць, і адначасова сама Біблія, перапісаная мільёнамі рук, – гэта ўнікальны культурны помнік, які ўсяму сьвету пакажа, што мы беларусы, мы нацыя, мы 500 гадоў таму ўжо друкавалі Біблію. Дарэчы, Івонка Сурвілла яшчэ год таму перапісала адну псалму, пасьпелі таксама Барадулін і Бураўкін. Тут можна аб'яднацца без усялякіх супярэчнасьцяў. Праблема толькі ў тым, каб людзі не перапісвалі той самы кавалак, таму павінен быць аргкамітэт, які каардынуе працу. Алесь Ліпай ужо падрыхтаваў і старажытны куфар, у які будзе складацца рукапісная Біблія. Я з сябрамі раблю металічную вокладку для яе. Гэта будзе магутная кніжка. У нас няма іншага шляху, каб сьцьвердзіць сябе, чым праз Біблію, перапісаную кожным беларусам, нават калі ты атэіст.

*Паводле Радыё Рацыя*

# Сьветлай памяці Міхася Белямука (працяг)



*У мінулым нумары нашай газэты мы паведамлялі пра адыход у вечнасьць вядомага дзеяча беларускай эміграцыі ў Амэрыцы сп. Міхася Белямука. Нядаўна мы атрымалі ліст ад ягонай удавы, сп-ні Тамары, якая прасіла надрукаваць у газэце ейны нэкралёг па мужу і дасылала таксама тэкст колішняга інтэрвію са сп. Белямуком беларускай журналісткі Ірыны Крэнь у газэце "Наша слова" з прапановаю надрукаваць яго ў памяць сп. Міхася, бо менавіта там больш поўна распавядаецца пра ягоную дзейнасьць на беларускай ніве. Мы падзяляем думку сп. Тамары, што гэта трэба падаць у газэту, бо сп. Белямук заслугоўвае, каб пра яго было напісана больш, чым у кароткім некралёгу. Ягоны аповяд можа быць цікавы таксама маладзейшай эміграцыі, каб яны больш ведалі пра пачаткі беларускага жыцьця ў Амэрыцы і пра выбітных асоб, якімі ўсё гэта рабілася.*

*Здаецца, што нам варта працягнуць гэтую традыцыю пісаць больш пра тых, хто заслугоўвае доўгай памяці. Калі здараецца сумная падзея, то часам толькі ўдаецца падаць нэкралёг. Родныя і сябры не адразу могуць сабрацца з думкамі, каб напісаць пра чалавека больш. Таму, калі ласка, можаце пісаць пра адышоўшых у вечнасьць і праз даўжэйшы час, не абавязкова сьпяшаца адгукацца на падзею адразу, і мы будзем друкаваць.*

**Тамара Белямук:** "31 кастрычніка 2014 году а 8:30 раніцы спынілася сэрца Міхася Белямука.

На 91-м годзе жыцьця памёр вядомы ў Амэрыцы і Беларусі грамадзкі дзеяч і гісторык, заснавальнік беларускай дыяспары ў Кліўляндзе, арганізатар і актыўны сябра Кліўляндзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Згуртаваньня Беларускай Моладзі, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Парафіі Жыровіцкае Божае Маці. Дзякуючы гэтым арганізацыям у 1960 годзе была збудавана першая на эміграцыі беларуская царква, на купале і ў інтэр'еры якой па прапанове Міхася Белямука ўпершыню ў гісторыі БАПЦ быў пастаўлены Крыж Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

Нарадзіўся Міхась 15 сакавіка 1924 году ў вёсцы Голі (цяпер Камянецкі раён) на Берасьцейшчыне. Там прайшлі ягоныя дзіцячыя і юнацкія гады.

У 1941 годзе сям'я Белямукоў была ў сьпісе на прымусовы вываз заможных гольцаў у неабжытыя раёны Сыбіру. Вываз меўся адбыцца ў панядзелак 23 чэрвеня. Але пачалася вайна, якая зьмяніла лёсы мільёнаў, у тым ліку і Міхася.

Па прапанове Уладзіміра Тамашчыка (з 1949 году - епіскап Васіль) сябра Беластоцкага Беларускага Камітэту Міхась Белямук у 1943 годзе быў залічаны ў Беластоцкі беларускі батальён самаахловы. У 1944 годзе разам з часткаю складу гэтага батальёну выехаў у Нарвэгію.

На працягу тых трывожных гадоў 1939-1944 Міхась перажыў шмат выпрабаваньняў: сядзеў у польскай турме, ледзь не загінуў ад гранаты, якую партызаны кінулі ў хату Белямукоў, а ў Нарвэгіі быў пасаджаны у савецкі лягер, адкуль яго вызвалілі нарвежскія сябры.

У 1945 годзе выехаў у Нямеччыну, каб адшукаць сваіх бацькоў. На тэрыторыі Заходняй Нямеччыны жыў у розных беларускіх лягерах для перамешчаных асобаў. Напрыканцы ліпеня 1946 году Міхась быў залічаны навучэнцам у Беларускую гімназію ў Міхэльсдорфе. У красавіку 1948 году ён экстэрнам здаў залікі на атрыманьне пасьведчаньня аб заканчэньні гімназіі і па запросінах ягонага дзеда Івана ў жніўні 1949 году прыехаў у Кліўлянд.

Слухаючы успаміны Міхася пра тое, як ён дапамагаў сваім суродзічам перабрацца ў Амэрыку, як выдаваў і распаўсюджваў юбілейную срэбную плакетку - іконку Сьв. Эўфрасіньні Полацкай (1973 год), як выдаваў і фундаваў часопіс "Полацак" (1991-1994 г.г.), я пераконвалася, што Міхась - глыбока веруючая асоба, шчыры беларускі патрыёт, апантаны беларушчынаю чалавек, які ўмеў зь вялікім запалам энэргіі і ўпартасьцю брацца за справу і даводзіць яе да канца.

Высокая самаарганізаванасьць дапамагала яму працаваць, адначасна займацца грамадзкай дзейнасьцю, самаадукацыяй, пісаць артыкулы на гістарычныя тэмы. Ягоная бібліятэка налічвала больш за 5 тыс. кніг. У 2008 годзе ён перадаў свае кнігі Цэнтральнай публічнай бібліятэцы г. Кліўлянда.

Міхась Белямук дасьледаваў беларускую сфрагістыку, геральдыку, нумізматыку, за што яму ў 1993 годзе было нададзена званьне ганаровага сябра Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Ягоныя артыкулы друкаваліся ў газэтах і часапісах у Амэрыцы, Беларусі, Польшчы, Літве. Выдаў кнігі: "Вытокі беларускіх пячаткаў" (1986, Кліўлянд), "Свайго лёсу не мінеш" (2006, Вільня), "Нумізматыка, сфрагістыка, успаміны" (2010, Менск).

Жывучы ў эміграцыі, Міхась ніколі не траціў цікавасьці да таго, чым жыла ягоная Бацькаўшчына, ліставаўся з суродзічамі ў Беларусі, Польшчы, Літве, некалькі разоў наведаў Беларусь.

Памёр Міхась, які быў для мяне клапатлівым мужам, бацькам для майго сына, любімым дзедам для маіх унукаў.

Памёр добры, чулы і спагадлівы чалавек, які ніколі не адмаўляў тым, хто зьвяртаўся да яго па дапамогу ці параду.

У пахавальным доме паніхіду па Міхасю Белямуку адслужылі а. Дзімітры (Беленькі), а. Пётра (Акружноў), а. Анатоль (Сегень). Адпяваньне адбылося ў саборы Сьв. Уладзіміра. Ліцыю на могільніку адпраўляў а. Дзімітры. Пахавалі Міхася на беларускім могільніку (Riverside Cemetery, Кліўлянд). Побач зь ім ляжаць тыя, з кім сябраваў, з кім будаваў царкву, хто стаяў побач зь ім у грамадзкай працы.

Вечная памяць табе, Міхась!"

## Беларускім шляхам у эміграцыі

*(Газэта "Наша слова" № 13 , 1996, інтэрвію падрыхтавала Ірына Крэнь)*

Беларускі гісторык і грамадзкі дзеяч са Злучаных Штатаў Амэрыкі Міхась Белямук падзяліў лёс сотняў тысяч тых нашых суайчыньнікаў, якія знайшлі сабе прытулак пасьля вайны ў чужым сьвеце. Менавіта Другая сусьветная вайна, на думку дасьледчыкаў, выклікала найбольшую хвалю эміграцыі зь Беларусі. У чэрвені 1941 году сям'я Белямукоў была ў сьпісе тых, каго прымусова меліся вывезьці ў Сібір, але вайна перашкодзіла гэтай акцыі. Таму ў 1944 годзе, ратуючыся ад "раскулачвньня" і высылкі, вырашылі выехаць (уцячы) чым далей на Захад. Пасьля капітуляцыі гітлераўскага рэйха Міхась Белямук апынуўся на тэрыторыі Заходняй Германіі ў лягеры для перамешчаных асобаў. Лягер быў нацыянальны. У ім, як сьведчыць А. Вініцкі ў сваёй кнізе "Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне", "кіраўніцтва школы і розныя арганізацыі мелі амаль нічым не абмежаваную нацыянальную дзейнасьць". Жыцьцё ў лягеры, думаецца, і заклала ў юнаку пачаткі нацыянальнай сьвядомасьці, разуменьня таго, што толькі ва ўмовах яднаньня, узаемадапамогі і арганізаванасьці ён з суайчыньнікамі здолее выжыць і цывілізавана ладзіць побыт на чужыне. Пераехаўшы з Германіі ў Кліўлянд (ЗША), Белямук становіцца ў шэрагі той беларускай эміграцыі, якая ў далейшым шмат зробіць для захаваньня і разьвіцьця на чужой зямлі роднай мовы і культуры, будзе гуртаваць суродзічаў у свае нацыянальныя аб'яднаньні. Працуючы на непрэстыжных і цяжкіх работах, выкройваючы час для вучобы і самаадукацыі, Белямук разам з тым займаецца грамадзкай дзейнасьцю, дасьледуе беларускую сфрагістыку, геральдыку, нумізматыку, за што ў 1993 годзе яму нададзена званьне Ганаровага сябра Інстытута гісторыі АН Беларусі. Адна са сфэраў дзейнасьці Белямука - журналістыка. Ён увесь час друкуецца ў эміграцкіх выданьнях, а ў 1991-1994 г.г. фундуе і выдае ў інтарэсах беларускага адраджэньня часопіс "Полацак".

***- Спадар Белямук, з чаго пачыналася Ваша грамадзкая дзейнасьць у эміграцыі?***

- Вясной 1947 году я прыехаў у Міхэльсдорф (Баварыя), каб вучыцца ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Паколькі ў 1935-39 г.г. я належаў да скаўцкай арганізацыі ў Польшчы, дык шэф беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне Вацлаў Пануцэвіч прызначыў мяне кіраўніком Шостага скаўцкага сьцягу ў Віндзішбергердорфе, па суседству з Міхэльсдорфам, дзе знаходзіўся беларускі лягер для перамешчаных асобаў. Шосты сьцяг складаўся з двух зьвязаў скаўтаў і аднаго - скаўтках. У зьвязах хлапцоў было па чатыры дружыны - у кожнай па 7-8 асобаў. У зьвязе скаўтак было пяць дружын па 8 асобаў у кожнай. Сьцяжному Шостага сьцягу падпарадкоўваліся дзьве грамады - "ваўчанятаў" і "пралесак". Кожная налічвала каля трыццаці дзяцей ва ўзросьце ад сямі да дванаццаці гадоў. Праца з моладзьдзю абавязвала мяне працаваць над сабою, праяўляць патрыятызм, спачувальнасьць, маральнасьць. Скаўты і скаўткі былі вучнямі купалаўскай гімназіі. Настаўнікі з бацькамі назіралі за паводзінамі сьцяжнога, зьвязовых і дружынавых. Яны патрабавалі, каб усе яны былі прыкладам для моладзі, асабліва ў маральным пляне.

***- А як Вы сталі арганізатарам беларускай калёніі ў Кліўляндзе?***

- Пераехаў у Кліўлянд у 1949 годзе і адразу пачаў думаць, як дапамагчы сваім скаўтам з Нямеччыны перабрацца таксама ў ЗША. Як аказалася, зрабіць гэта было нялёгка. У той час, калі

*Працяг на 6-й бачыне*

# Сьветлай памяці Міхася Белямука (працяг)

*Працяг з 5-й бачыны*

ўсе нацыянальнасьці мелі свае арганізацыі (навуковыя, грамадзкія, рэлігійныя), якія дапамагалі суродзічам перабрацца з Эўропы на сталае жыхарства ў ЗША, а затым апекаваліся імі, забясьпечваючы пры дапамозе спонсараў працаю і кватэрамі, у нас, беларусаў, такіх арганізацый не было. Аднак, я рызыкнуў і, зрабіўшыся спонсарам, паслаў 25 асобам у Нямеччыну запросіны. Эміграцыйныя ўлады мяне прылавілі на чарговых дваццаць шостых запросінах і заявілі, штось я запрашаю людзей нелегальна. Мне пагражала высылка, дэпартацыя. Аднак, прыгавор злагодзілі пасьля таго, як славацкі манаскі ордэн бенедыктынаў паручыўся за мяне і паабяцаў эміграцыйным уладам заапекавацца ўсімі асобамі, якіх я запрасіў.

Хутка пасьля майго прыезду ў Клійлэнд, я пачаў атрымліваць лісты ад беларусаў, якія таксама прыехалі ў Амэрыку, завербаваўшыся на працу ў капальні, на плантацыі бавоўны да амэрыканскіх фермераў.У Нямеччыне ім шмат чаго наабяцалі, аднак пасьля прыезду аказалася, што жыцьцёвыя ўмовы тут вельмі цяжкія. Прасілі мяне дапамагчы ім пераехаць у Клійлэнд і я стараўся іх просьбы палагодзіць, хаця сам не меў сталае працы, а фінансава ледзь-ледзь зьвязваў канцы з канцамі. Вось так памаленьку колькасьць пасьляваенных беларусаў у Клійляндзе павялічвалася . У кастрычніку 1959 году я склікаў сход, на якім быў закладзены аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) , а ў сьнежні таго ж году было створана Згуртаваньне беларускай моладзі (ЗБМ).

***- Калі ласка, раскажыце падрабязьней пра свой удзел у стварэньні БАЗА і ЗБМ у Клійляндзе і пра ролі гэтых арганізацый?***

- Як я ўжо казаў, усе нацыянальнасьці ў Клійляндзе за выняткаў нас, беларусаў, мелі свае арганізацыі, культурныя цэнтры і храмы. Мы ж нічога ня мелі, даваенная беларуская эміграцыя тое, што збудавала, называла "русской церковью", "русским народным домом", "рускім обществом" (Гродзенскай, Менскай, Віленскай, Смаленскай, Магілёўскай губерняў). Нам прыйшлося закладваць упершыню беларускія арганізацыі, будаваць беларускія цэрквы, выдаваць беларускія часопісы, газэты, кнігі. У Нью-Ёрк зь сем'ямі пасьля вайны прыехалі Янка Станкевіч, Аляксандр Орса, Мікола Дарашэвіч, Мікола Гарошка, Пётр Кажура, Янка Ніхаёнак. Яны з жонкамі сабраліся 31 ліпеня 1949 году ў хаце Станкевіча і пастанавілі залажыць БАЗА. Таксама на гэтай зборцы даручылі Станкевічу запрапанаваць мне стаць пятнаццатым сябрам гэтай арганізацыі, а паколькі я згадзіўся, даручылі мне арганізаваць аддзел БАЗА у Клійляндзе. Калі пастанова аб стварэньні БАЗА была прынятая, трэба было статут зарэгістраваць у штаце Нью-Ёрк. А каб БАЗА магла закладаць аддзелы ў іншых штатах, трэба было атрымаць чартэр ад Фэдэральнага суду. Я яго атрымаў у ліпені 1950 году і пачаў думаць аб скліканьні сходу суродзічаў, каб залажыць аддзел БАЗА у Клійляндзе. Зрабіць гэта было нялёгка. Справа ў тым, што ў Нямеччыне беларусы дзяліліся на "крывічоў" і "зарубежнікаў". Я, запрашаючы скаўтаў, ня браў пад увагу палітычныя погляды іх бацькоў. Такім чынам, ладная колькасьць тых, хто прыехаў у Клійлянд, былі "зарубежнікамі". БАЗА ж у Нью-Ёрку была арганізавана "крывічамі". Я прадбачыў, што на сходзе паміж групоўкамі могуць разгарэцца спрэчкі, закіды, абвінавачаньні, і людзі, пераесварыўшыся, могуць разыйсьціся. Сход можа спрычыніцца да падзелу калёніі.

Я пачаў перамовы з апазыцыяй. Стараўся пераканаць, што наш аддзел БАЗА ня будзе займацца палітычнымі мерапрыемствамі на карысьць БНР і практычна застанецца самастойным, а я не прэтэндую быць яго старшынём. Аддзел будзе проста дапамагаць беларусам пераяжджаць з Эўропы ў Клійлэнд і тут ладзіць сваё жыцьцё. Сход суродзічаў Клійлянда быў скліканы 1 кастрычніка 1950 году. Ён прайшоў спакойна, і мы бяз спрэчак залажылі аддзел БАЗА.

Цяпер скажу коратка пра ўтварэньне Згуртаваньня беларускай моладзі. У Нямеччыне была маладзёвая арганізацыя - скаўтынг. Беларускі скаўтынг быў зарэгістраваны ў галоўнай кватэры сусьветнага скаўтынгу як самастойная арганізацыя. Калі мы пераехалі зь Нямеччыны ў ЗША, то згубілі прывілею быць самастойнай аргнізацыяй, а павінны былі падпарадкавацца амэрыканскай скаўцкай адміністрацыі штата. Пастанова аб арганізацыі БАЗА у Клійляндзе прысьпешыла скліканьне сходу моладзі, каб вырашыць пытаньне аднасна будучыні. Я, як сьцяжны Шостага скаўцкага сьцягу, склікаў гэты сход 24 сьнежня 1950 году і запрапанаваў залажыць Згуртаваньне беларускай моладзі. Прысутныя ўхвалілі прапанову, і мяне выбралі кіраўніком Згуртаваньня. У сакавіку 1953 году адбыўся сход беларускай моладзі ў Дэтройце, дзе пастанавілі залажыць свой аддзел ЗБМ. Інакш адбылося ў Нью-Ёрку. Старэйшае грамадзтва параіла моладзі залажыць сваю самастойную арганізацыю - Аб'яднаньне беларускай моладзі (АБМ) "Маладняк". У выніку адбыўся падзел беларускай моладзі ў ЗША. Я пачаў дамаўляцца са старшынём "Маладняка" Янкам Ніхаёнкам склікаць зьезд моладзі, на якім стварыць адну арганізацыю. Перамовы ішлі марудна. Нарэшце мы ўсё ж дамовіліся, што зьезд моладзі адбудзецца ў Клійляндзе 30 сьнежня 1951 году. Аднак нью-ёркскія дзеячы паставілі ўмову, што пасьля аб'яднаньня галоўнае кіраўніцтва моладзі павінна знаходзіцца менавіта ў Нью-Ёрку. Дзеля дабра справы я пагадзіўся на гэта. Зьезд пастанавіў, што "Маладняк" перастае існаваць, адзінай арганізацыяй ёсьць ЗБМ. Старшынём стаў Міхась Тулейка, заступнікам абралі мяне.

Дзякуючы БАЗА і ЗБМ у 1950-60 гадох у Клійляндзе паўстала Беларуская аўтакефальная праваслаўная Парафія Жыровіцкае Божае Маці. Прыхажане купілі пляц, на якім пабудавалі храм. Для дзяцей арганізавалі нядзельныя школкі. Моладзі дапамагалі стварыць футбольныя і валейбольныя каманды, дружыну лёгкай атлетыкі, дзявочы і мужчынскі хоры, мяшаны хор, танцавальны ансамбль, драматычны гурток, запачаткавалі выданьне калядных картак, друкавалі сьпеўнікі, арганізоўвалі акадэміі, прысьвечаныя гісторыі і культуры Беларусі. Прымалі ўдзел у міжнацыянальных фэстывалях, выставах і сустрэчах.

***- А як сталася, што на вашай царкве быў пастаўлены Крыж Сьв. Эўфрасіньні Полацкай?***

- Будаўніцтва царквы пачалося ў ліпені 1959 году. Вярнуўшыся з Каламбуса, дзе вучыўся ва ўніверсытэце, я ўключыўся ў будаўніцтва. Спраектаваў узор падлогі і выклаў яе пліткамі. Прыхажане пагадзіліся з маёй прапановаю паставіць у інтэр'еры і на купале царквы Эўфрасіньеўскі Крыж. Аднак Уладыка Васіль прыгразіў царкоўнаму камітэту, што не прыедзе асьвячаць царкву, калі яна будзе з такімі крыжамі. Два дні я вёў перамовы з Уладыкам, і вынік быў такі: каб мы да епархіяльнага сабору крыжоў ня ставілі. А на епархіяльным саборы ў траўні наступнага году клійляндзкай дэлегацыі з дапамогаю дэтройцкай удалося палагодзіць справу на карысьць Эўфрасіньеўскага Крыжа. Духавенства і некаторыя дэлегацыі зразумелі, што, пратэстуючы супроць гэтага Крыжа, яны тым самым кампраметуюць сябе, бо выходзіць, што БАПЦ выступае супроць свайго ж беларускага праваслаўнага крыжа. Я быў вельмі ўзрадаваны нашай перамогаю і неадкладна замовіў пазалочаны крыж на купал царквы Жыровіцкай Божай Маці, заплаціўшы сваімі грашыма.

Прайшло некалькі гадоў. Эўфрасіньеўскі Крыж паставілі таксама на купалах цэркваў у Адэляйдзе і Мельбурне (Аўстралія), у Гайлэнд Парку (Нью Джэрзі) і ў Нью-Ёрку (1988 год). Пачалі ставіць такія крыжы на магілках.

***- Я чула пра выданьне сярэбранай плакеткі-іконкі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, якое Вы ажыцьцявілі.***

- У верасьні 1972 году ў Таронта адбылася 10-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, на якой я прапанаваў духавенству БАПЦ і эміграцыйным дзеячам адзначыць 800-годзьдзе патронкі Беларусі - Эўфрасіньні Полацкай выданьнем сярэбранага мэдаля вагой 200 грамаў. Удзельнікі Сустрэчы прынялі прапанову без энтузіязму, але духавенства зацікавілася, і мяне запрасілі на пасяджэньне кансісторыі БАПЦ у Гайленд Парк. К гэтаму часу я ўжо дамовіўся з выдатным амэрыканскім скульптарам Ральфам Мэнконі, што ён спраектуе мэдаль задарма, а вядомая фірма"МэдалікАрт" зробіць 500 мэдалёў з высокім рэльефам па зьніжанай аплаце за работу. Аднак калі прадстаўнікі царквы даведаліся, што мэдалі будуць каштаваць каля 18 тыс. дал., іх настрой зьмяніўся. Па сутнасьці царква не захацела быць іх выдаўцом, іерархі, параіўшыся зь сябрамі Кансісторыі, мне казалі: "Закладвайце свае грошы і пачынайце рабіць, а мы пашукаем, можа, знойдзем зычлівых людзей, якія згодзяцца дапамагчы Вам у выданьні мэдалёў". Аднак, гэта не паўплывала на мае пляны. Я не зьліквідаваў дамоўленасьць са скульптарам і фірмаю. На жаль, Мэнконі памёр, і я мусіў зьвярнуцца да другога выдатнага скульптара - італьянца Паўла Вінчы, зь якім сустракаўся на зьездах нумізматычнага таварыства. Ён папрасіў мяне прыслаць усё, што напісана пра нашу сьвятую, уключна і іконы. Я выслаў Вінчы адпаведную літаратуру пра Эўфрасіньню Полацкую, здымак знойдзенай у Ноўгарадзе яе асабістай пячаткі і ветліва мне дасланы Георгіем Штыхавым, а таксама фатаграфіі Спаса-Эўфрасіньеўскай царквы і Сафійскага сабору з тлумачэньнем, чаму іх выявы трэба зьмясьціць на мэдалі. Скульптар захапіўся гісторыяй нашай сьвятой і паабяцаў зрабіць мэдаль бясплатна. Толькі параіў выдаваць не мэдаль, а плакетку-іконку памерам 12X18.5 см, прымацаваную да оніксавай пласьцінкі. Улічваючыся ў "Жыцьце Эўфрасіньні Полацкай", аналізуючы пячатку, ён прыйшоў да высновы, што сьвятая была вельмі актыўнай асобаю, і яе жывы, дынамічны характар лепш перадасьць ейны профіль. Прыблізны кошт выданьня 500 іконак складзе 20 тыс. дал. Іерархі і Кансісторыя пагадзіліся з прапановаю скульптара, але і гэтым разам не пажадалі стаць выдаўцамі, спаслаўшыся на адсутнасьць грошай.

*Заканчэньне на 7-й бачыне*

# Сьветлай памяці Міхася Белямука (працяг)

Заканчэньне з 6-й бачыны

Аднаго дня я атрымаў нэгатыў і фатаграфію іконкі. Зь нэгатыва адбіў каля 300 фота і разаслаў іх сьвецкім і духоўным асобам беларускага паходжаньня ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі з просьбаю выказаць сваe меркаваньні. Паколькі крытычных заўвагаў не было, я паслаў Вінчы 6 тыс. дал. на выраб матрыцы і 5 тыс. на закуп срэбра і выданьне першых 30 іконак, якія замовілі былыя скаўты. І вось тады пачулася крытыка: чаму гэтая іконка зробленая не ў кананічным праваслаўным стылі (як вядома, яна чаканілася і шліфавалася ў Італіі) і чаму сьвятая прадстаўлена ў профіль. З наступнай партыі 10 іконак засталіся непрададзенымі, і мне давялося іх выкупіць і спыніць далейшае выданьне. Разам зь Вінчы мы зьвярнуліся да нумізматычных таварыстваў і перадалі ім права на далейшае выданьне іконак.

***- Я чула, што каляровы партрэт Ф. Скарыны, зьмешчаны ў энцыкляпедычным даведніку "Францішак Скарына і яго час" Вашай работы?***

- Сапраўды гэта так. Вясной 1987 году Вітаўт Кіпель паведаміў мне з Нью-Ёрка, што, праглядаючы архіў Вітаўта Тумаша, ён знайшоў у канвэрце маленькі каляровы негатыў з запіскаю: "Францішак Скарына. Зала сарака". Мы ведалі, што Тумаш тройчы да сваіх артыкулаў аб Скарыне далучаў фатаграфію яго партрэта з Залі сарака, але яна была чорна-белай (заля ў Падуанскім унівэрсытэце, дзе знаходзяцца 40 партрэтаў найславуцейшых людзей сьвету і адзін зь іх - Францішка Скарыны). Каляровы негатыў абрадаваў нас, бо быў знойдзены своечасова. Мы мелі надзею зьмясьціць партрэт у энцыкляпэдычным даведніку, які ў той час рыхтаваўся ў Менску да 500-годзьдзя вялікага сына Беларусі. Я неадкладна выехаў да Кіпеля, забраў негатыў і зрабіў фатаграфію памерам 8.5х12см. На жаль, яна аказалася недасканалай, са шматлікімі дэфэктамі. Я перафатаграфоўваў партрэт да таго часу, пакуль не давёў яго да памеру 11.5х23 см. і не зьліквідаваў усе дэфекты. Атрымаўшы дасканалы партрэт, я задумаў падаваць яго на каляровым фоне, клаў фатаграфію на аксаміт розных колераў і фатаграфаваў, ужыў шмат спосабаў, каб зьняць сьвятлоцені ад аксаміту. На ўсю работу патраціў гадзін пяцьдзясят. А што зрабіў пасьля? Заказаў у "Кодаку" 40 партрэтаў Скарыны з розным фонам і разаслаў іх у 1987 годзе ў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", у Беларускую нацыянальную бібліятэку, у бібліятэкі БДУ і АН Беларусі, у бібліятэкі Гародні, Полацка, Віцебска, Берасьця, Вільні, Беластока, Варшавы і Кракава, а таксама некаторым грамадзкім дзеячам і прыватныі асобам: П.Краўчанку, Г.Бураўкіну, Г.Штыхаву, Б.Сачанку, Г.Сагановічу, М. Ермаловічу, В. Рабцэвічу, А. Беламу, Л. Казыру ды іншым. Калі выйшаў энцыклапэдычны даведнік, я пабачыў, што на ст. 635 рэпрадукцыя гэтага партрэта зьмешчаная без камэнтароў, з абрэзаным фонам і падкарочаным нізам, у выніку чаго партрэт Скарыны згубіў прапорцыю і выглядаў прысадзістым.

***- Скажыце колькі слоў пра сваю журналісцкую і выдавецкую працу.***

- У амэрыканскай зоне Нямеччыны выдаваўся скаўцкі часопіс "Ганец", у выданьні якога я прымаў удзел і набываў практыку. Пераехаўшы ў ЗША, пачаў пасылаць інфармацыі і артыкулы ў газэты - "Бацькаўшчына". "Беларускі эмігрант", пазьней друкаваўся ў газэце "Беларус". Падпісваўся сваім прозьвішчам, або ставіў ініцыялы М.Б., ці псэўданім - Беластоцкі. Калі залажылі Згуртаваньне беларускай моладзі ды пачалі выдаваць часопіс "Віці", пачаў карыстацца псэўдонімам - Чаромха. Часопіс "Віці", пачынаючы з трэцяга нумару, выдавалі на маёй кватэры. Таксама пасылаў свае артыкулы ў часопісы "Беларускі сьвет" , "Голас царквы", "Царкоўны сьветач", "Голас часу" і "Полацак". Пра апошні скажу некалькі слоў. Ужо пасьля 1987 году я пачаў думаць аб выданьні часопіса, які б друкаваўся ў ЗША, а супрацоўнічалі ў ім беларусы як з Бацькаўшчыны, так і з блізкага і далёкага замежжа. У жніўні 1990 году прыехала зь Менску ў Клiўлянд на 19-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі дваццацітрохгадовая асьпірантка журфака Сьвятлана Белая. Яна запрапанавала свае паслугі ў выданьні часопіса. Каб яна змагла застацца і атрымаць "зялёную карту" (права на жыхарства), я зрабіў яе рэдактарам, узяў на поўнае ўтрыманьне, плаціў за набор кожнага нумару 500 дал. "Полацак" выходзіў рэгулярна (10 нумароў на год) у 1991-94 г.г. У лісьце ад 22 лютага 1995 году, які я паслаў у рэдакцыі розных выданьняў і чытачам "Полацка" , я расказаў, што сталася з гэтым выданьнем.

Да сказанага дадам, што ў 1984 годзе я выдаў брашуру "Др. Ю.Штыхаў (біяграфія і бібліяграфія Георгія Штыхава), а ў 1986 годзе - кніжку "Вытокі беларускіх пячаткаў".

# Каляндар памятных датаў на люты - сакавік 2015 году

### Люты

**3 лютага** - 20 гадоў таму, у 1995 годзе, у Мельбурне памёр Уладзімір Шнэк (Случанскі), пісьменьнік, вайсковы і грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**4 лютага** - 65 гадоў таму, у 1950 годзе, памёр Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец

**8 лютага** - 205 гадоў таму, у 1810 годзе, нарадзіўся Іван Хруцкі, мастак

**13 лютага** - 310 гадоў таму, у 1705 годзе, нарадзілася Францішка Уршуля Радзівілл, пісьменьніца, драматург

**14 лютага** - 215 гадоў таму, у 1800 годзе, нарадзіўся Валенці Ваньковіч, мастак

**16 лютага** - 120 гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся Францішак Кушаль, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**19 лютага** - 110 гадоў таму, у 1905 годзе, у Вене памёр Якуб Наркевіч-Ёдка, вынаходнік, мэдык

**19 лютага** - 100 гадоў таму, у 1915 годзе, нарадзіўся Анатоль Бярозка (Рэпкаў-Смаршчок), лекар, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**21 лютага** - Міжнародны дзень роднай мовы

### Сакавік

**4 сакавіка** - 125 гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзіўся Вінцук Адважны (Язэп Германовіч) каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі

**8 сакавіка** - 105 гадоў таму, у 1910 годзе, нарадзіўся Пётра Конюх, сьпявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бэльгіі, ЗША і Канадзе

**10 сакавіка** - 10 гадоў таму, у 2005 годзе,памёр Апанас Цыхун, краязнавец, пэдагог, пісьменьнік

**14 сакавіка** - 20 гадоў таму, у 1995 годзе, у Нью-Ёрку памёр Уладзімір Сядура (Глыбінны), пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**17 сакавіка** - 105 гадоў таму, У 1910 годзе, нарадзіўся Хведар Ільяшэвіч, пісьменьнік, гісторык, грамадзкакультурны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

**19 сакавіка** - 120 гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзіўся Тамаш Грыб, палітычны і культурны дзеяч

**21 сакавіка** - 175 гадоў таму, у 1840 годзе, нарадзіўся Францішак Багушэвіч, паэт, празаік, публіцыст

**25 сакавіка** - Дзень Волі

**25 сакавіка** - 110 гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся Алесь Вечар, біяхімік, паэт

**25 сакавіка** - 65 гадоў таму, у 1950 годзе, у Сіднэі адбыўся Першы зьезд сяброў Беларускага Аб'яднаньня ў Аўстраліі

**27 сакавіка** - Міжнародны дзень тэатра

**28 сакавіка** - 20 гадоў таму, у 1995 годзе, памёр Чэслаў Найдзюк, грамадзкі дзеяч, юрыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША

# У Нью-Ёрку затрымалі трох расійскіх шпіёнаў

У Нью-Ёрку выстаўленае абвінавачванне тром падазраваным у шпіянажы на карысць Расіі, паведаміла Reuters.

Як паведамляецца, абвінавачаных клічуць Яўгеній Буракоў, Ігар Спорышаў і Віктар Падобны. Яны нібыта зьбіралі сакрэтную інфармацыю для расійскіх спецслужбаў і наймалі жыхароў Нью-Ёрка, якія ім у гэтым дапамагалі. Па версіі сьледзтва, трое мужчын вялі сваю дзейнасьць з 2012 года. Буракоў працаваў у банку, Спорышаў быў расійскім гандлёвым прадстаўніком, а Падобны быў аташэ ў расійскай місіі пры ААН.

# Аб'ява

Вашынгтонскі гуртоk БАЗА запрашае да супрацоўніцтва беларусаў, а так сама ўсіх, хто жыве ў Акрузе Калюмбія, штатах Вірджынія, Мэрылэнд і Дэлавэр і цікавіцца беларускімі справамі.

Падрабязную інфармацыю пра дзейнасьць Гуртка можна атрымаць, напісаўшы на e-mail: amnesty_by@gmx.net.

## Матывацыя працы для грамадства

Чаму людзі працуюць у сацыяльных службах у Беларусі? І ці сапраўды супрацоўнікі маюць жаданне дапамагаць жыхарам? Адказамі на гэтыя пытанні падзялілася Паліна Прысмакова, дактарантка Міжнароднага Універсітэту Флорыды.

Прэзэнтацыя папярэдніх вынікаў дасьледваньня адбылася у рамках другой Польска-Беларускай Школы Дзяржаўнага Кіраваньня арганізаванай для стыпендыстаў і выпускнікоў Праграмы імя Каліноўскага. Вынікі таксама былі прадстаўленыя на абмеркаваньне ў сядзібе Студыум Усходняй Эўропы Варшаўскага Унівэрсітэту.

На прыкладзе Біржаў Труда і Цэнтраў Сацыяльнага Абслугоўваньня Гарадзенскае вобласьці, высьветлілася, што працаўнікі гэтых установаў маюць значна ніжэйшы ўзровень самаадданасьці чымсьці працаўнікі аналагічных установаў Польскага Падляшша, памежнага з Беларусcю рэгіёну. А менавіта, беларусы часцей лічаць свае прыватныя справы важнейшыя за грамадзскія абавязкі. У той самы час, дасьледваньні паказваюць што беларускія працаўнікі сацыяльных службаў значна болей за польскіх прывабленыя працай на карысьць грамадства. Яны хутчэй за палякаў інцыююць ці прымаюць удзел у мерапрыемствах на карысьць лакальнае супольнасьці, іх вобласьці ці раёна.

Дасьледваньні аказаліся магчымымі пры падтрымцы Міжнароднага Універсітэту Флорыды, Фундацыі Сораса, Адукацыйна-Культурнай Фундацыі Орса-Рамана і Фундацыі Крэчэўскага.

*Паліна Прысмакова*

*Гуртох БАЗА Паўднёвай Флорыды*

## Беларускі "Бярозавік" у ЗША называюць гітам сэзону




Замежная прэса прадракае сапраўднае «шаленства» вакол бярозавіку, які «лечыць захворваньні вантробаў, грып, галаўныя болі і нават пазбаўляе ад цэлюліту».

Бярозавы сок зь Беларусі карыстаецца вялікім посьпехам за мяжою, а ўпакоўка бярозавіку на інтэрнэт-пляцоўцы Amazon.com каштуе больш за сорак даляраў.

Замежныя гурманы на хвалі прагі да новых прадуктаў адкрываюць новыя смакі. У заходніх краінах яшчэ да нядаўняга часу была папулярная какосавая вада, пра яе перавагі і карысныя якасьці не стамляліся распавядаць кіназоркі і мадэлі. Але нават і на яе мода праходзіць — прынамсі, гэтак сьцьвярджаюць блогеры, журналісты і аглядальнікі, якія пішуць пра здаровы лад жыцьця.

Брытанскі штодзённьнік Daily Mail раіць і ўвогуле забыць пра какосавую ваду, бо «ў 2015-м усе будуць шалець па бярозавіку, які лечыць захворваньні вантробаў, грып, галаўныя болі і нават пазбаўляе ад цэлюліту».

У выданьні Huffington Post бярозавы сок назвалі ключом да вырашэньня «праблемаў са здароўем і прыгажосьцю» і новым напоем году.

У лёнданскай газэце London Evening Standard зьявіўся яшчэ адзін артыкул пра бярозавы сок, які называюць тут «найноўшым з напояў, лепшых за ваду». Адзначаюць, што ён нарабіў немалога шуму сярод такіх фігур, як Гвінэт Пэлтроў. У артыкуле пішуць, што бярозавы сок заваёвае палацы Вялікабрытаніі, а брэнд Byarozavik зь Беларусі, які прадаецца на Amazon. com, называюць і ўвогуле адным з «найбуйнейшых брэндаў у ЗША» ў сваім сэгмэнце.

«Бярозавік» робяць на Менскім заводзе безалькагольных напояў. «Унікальны дар беларускай прыроды» — гэтак яго рэклямуюць вытворцы. Кіраўнік аддзелу зьнешнеэканамічнай дзейнасьці Міхаіл Сінічэнкаў распавёў, што цяпер на беларускі бярозавы сок найбольшы попыт — з боку ЗША і Аўстрыі. У ЗША і Аўстрыю сталічны завод экспартуе гэтак званы «арганік», то бок экалягічна чысты прадукт. Што жа да звычайнага, не «арганічнага» бярозавіку, то яго прадаюць у Беларусі ды экспартуюць у Расею. Нядаўна, як распавёў Сінічэнкаў, паставілі і ў Туркмэністан, дзе гэтаксама «ёсьць пэўны інтарэс» да беларускага соку. «Бярозавік» на амэрыканскіх паліцах глядзіцца годна. «Апранулі» ж бярозавы сок у цяперашнія пакункі дызайнэры з брэндынгавага агенцтва ў Менску «Folio-Art».

Распрацаваць упакоўку, кажа Валянцін Латушкін, удалося за паўгода-год — з улікам падрыхтоўкі. Спачатку ў агенцтве прыдумалі цяперашнюю назву. Важна было адзначыць, што прадукт паходзіць зь Беларусі. Дызайн «Бярозавіку» ў 2011 годзе заняў першае месца ў катэгорыі «Этыкетка і ўпакоўка» на фэстывалі беларускамоўнай рэклямы і камунікацыі AD.NAK.

*Паводле Радыё Свабода*

## Памёр Анатоль Грыцкевіч



На 86-м годзе жыцьця 20 студзеня 2015 году памёр вядомы беларускі навуковец, гісторык Анатоль Грыцкевіч. Нарадзіўся ён 31 студзеня 1929 году ў Менску.

У 1950 скончыў Менскі мэдычны інстытут. У 1955 — Менскі пэдагагічны інстытут замежных моваў, у 1958 — Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт. Працаваў лекарам[1]. З 1959 — у Інстытуце гісторыі АН Беларусі, з 1975 загадчык катэдры Менскага інстытуту культуры (з 1993 — Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры), адначасна ў 1996—2000 дырэктар Беларускага інстытуту Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.

Дасьледаваў гісторыю Беларусі пэрыяду фэадалізму, прыватнаўласьніцкія месты, гістарыяграфію. Вывучаў рэлігійныя праблемы ў Вялікім Княстве Літоўскім, становішча праваслаўнай царквы, вуніяцтва[2]. Таксама дасьледаваў гісторыю Беларусі часоў барацьбы за незалежнасьць, Слуцкі збройны чын, беларуска-летувіскія адносіны[3]. Быў сябрам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі — БНФ і актыўным удзельгікам новага беларускага Адраджэньня.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Тамара Белямук | $50 |
| Алена Дубавая | $50 |
| Галіна Бахар-Найда | $150 |
| Янка Барысевіч (Аўстралія) | $40 |
| Сільвестр Будкевіч (Англія) | $60 |
| Людміла Бакуновіч | $50 |
| Ліза Грыц-Бакуновіч (Аўстралія) | $60 |
| Людміла Варанцова | $50 |
| Галіна Руднік (Германія) | $100 |
| Анатоль Грошаў | $100 |
| Яўген Кабяка | $50 |
| Элеанора Норык | $50 |
| Богдан Паўк | $50 |
| Нікалас Сьнежка | $100 |
| З Аўстраліі: | $300 |

Беларуская Асацыяцыя ў Заходняй Аўстраліі:
Марыя Мароз
Алекс Мароз
Е.Дамброўскі
М.Раецкі

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :**
***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*